СОНЦА:
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 6.34, 19.38, 13.03;
Віцебск — 6.23, 19.29, 13.06;
Магілёў — 6.24, 19.27, 13.03;
Гомель — 6.24, 19.20, 12.56;
Гродна — 6.52, 19.50, 12.59;
Брэст — 6.52, 19.52, 13.00.
МЕСЯЦ:
Поўня 12 верасня
ІМЯНІНЫ:
Івана.

# ЗВЯЗДА

11 ВЕРАСНЯ 1992 г. пятніца, № 183 (21961)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

## ЧП НА ПЛОШЧЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ: СПАЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ СЦЯГ

### ТАКОЕ ЗЛАЧЫНСТВА СУРОВА КАРАЕЦЦА ВА ЎСІХ КРАІНАХ СВЕТУ

Сапраўдны акт вандалізму ўчынены ў ноч з 8-га на 9-е верасня на плошчы Незалежнасці пасля заканчэння свята Беларускай вайсковай славы — невядомымі спалены 8-метровае палотнішча нацыянальнага сцяга і герб «Пагоня», якія ўпрыгожвалі плошчу. Каля кучкі попелу і абгарэлых рэшткаў тканіны знойдзены балончык з гаручай вадкасцю, рассыпаныя запалкі. Між тым, арганізатары свята мелі дамоўленасць з адным з міліцэйскіх кааператываў аб ахове трыбуны, якая пакідалася на ноч, і афармлення. Мастак М. Купава напярэдадні папярэдзіў дзяжурнага па Маскоўскаму РАУС аб неабходнасці прасачыць за захаваннем атрыбутыкі, і яму было паабяцана, што гэта будзе зроблена. Ніхто, уключаючы міліцыю, што нясе ахову помніка Леніну і Дома ўрада, не бачыў, як адбывалася крымінальнае злачынства, якое сурова караецца ва ўсіх краінах свету, хоць не бачыць гэтага было немагчыма. Адзін з арганізатараў свята, Яўген Шунейка, лічыць, што ў спальванні нацыянальнага сцяга ўдзельнічала цэлая група злачынцаў — аднаму чалавеку гэта было б не пад сілу.

Учора старшыня Беларускага народнага фронту З. Пазьняк звярнуўся ў гарадскую пракуратуру па факту ўчыненага злачынства, бо ніяк нельга моўчкі рэагаваць на яго.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

## ДЗЕЛАВЫЯ КОЛЫ ПАВІННЫ СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ

9 верасня ў Мінск з двухдзённым візітам прыбыў былы прэм'ер-міністр дзяржавы Ізраіль Іцхак Шамір. Ён нанёс візіт Старшыні Савета Міністраў Беларусі Вячаславу Кебічу, з якім пазнаёміўся ў час знаходжання афіцыяльнай дэлегацыі нашай рэспублікі ў Ізраілі гэтым летам.

Трэба выкарыстаць увесь ваш уплыў на прадпрымальнікаў, каб дзелавыя колы нашых краін сталі, нарэшце, паўней супрацоўнічаць,— такое пажаданне выказаў на сустрэчы з высокім госцем прэм'ер-міністр Беларусі.

Затым былы кіраўнік урада Ізраіля сустрэўся з прадстаўнікамі яўрэйскіх абшчын у Мінску, пабываў у Ізраільскім інфармацыйным цэнтры «Сохнут».

Раніцай 10 верасня ў Іцхака Шаміра намечана сустрэча з дэпутатамі парламента і гутарка са старшынёй Камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях Вярхоўнага Савета рэспублікі Пятром Садоўскім. Затым былы прэм'ер-міністр Ізраіля адбудзе ў гарадскі пасёлак Ружаны, адкуль ён родам, дзе наведае яўрэйскія могілкі.

**(БЕЛІНФАРМ).**

### ПА ЧУТКАХ І НА СПРАВЕ

## ЦІ БЫЛІ АДРЭЗАНЫЯ ГАЛОВЫ?

**Не так даўно ў штотыднёвіку «Московские новости» з'явілася кароценькая інфармацыя, быццам паблізу Мінска, у лесе, былі знойдзены расчлянёныя трупы, якія туды трапілі з НДІ анкалогіі. Жудасную навіну падхапілі і рэспубліканскія сродкі масавай інфармацыі.**

**Карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да старшага следчага Мінскай міжрайпракуратуры Ігара СЕЎРУКА.**

**— Ігар Рыгоравіч, дык што ўсё-такі здарылася каля пасёлка Ляснога?**

— Трэба сказаць, што «Московские новости» крыху «ўпрыгожылі» гэты факт. Не было ніякіх адрэзаных галоў, не было трупаў. Было восем поліэтыленавых мяшкоў з пасляаперацыйным матэрыялам. Ну, ведаеце, што застаецца пасля хірургічных аперацый —

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

Вось такая капуста, нягледзячы на засушлівы год, вырасла на полі фермера з вёскі Іванаўка Крычаўскага раёна Анатоля МУРАШКІ. На сваіх сямі гектарах ён вырасціў сёлета нядрэнны ўраджай агародніны — агуркоў, бульбы, сталовых буракоў, на славу ўдаўся і ячмень.

Па падліках Анатоля Сямёнавіча, у гэтым годзе ад сваёй працы ён атрымае паўмільёна рублёў прыбытку.

**Фота Валерыя БЫСАВА. (Белінфарм).**

## С. ШУШКЕВІЧ І Я. ШАПАШНІКАЎ КАНСУЛЬТУЮЦЦА

Па запрашэнню Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслава Шушкевіча беларускі парламент наведаў галоўнакамандуючы Аб'яднанымі Узброенымі Сіламі СНД маршал авіяцыі Яўген Шапашнікаў, які ўдзельнічаў у мінскай нарадзе міністраў замежных спраў СНД.

Станіслаў Шушкевіч і Яўген Шапашнікаў правялі кансультацыі па праблемах, што прадстаўляюць узаемную цікавасць. Дэталёва абмеркаваны пытанні аб скарачэнні Узброеных Сіл, вывадзе стратэгічных войск з тэрыторыі Беларусі. Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі пацвердзіў цвёрдасць пазіцыі Беларусі ў адносінах да папярэдніх дамоўленасцей па ваеннаму супрацоўніцтву.

У ходзе размовы бакі выказалі ўзаемную ўпэўненасць у тым, што пастаянныя кантакты па ваенных пытаннях будуць садзейнічаць іх рацыянальнаму вырашэнню.

## АБ ВІЗІЦЕ БЕЛАРУСКАЙ УРАДАВАЙ ДЭЛЕГАЦЫІ Ў КАЗАХСТАН

15 верасня пачнецца афіцыяльны візіт дэлегацыі ўрада Рэспублікі Беларусь на чале са Старшынёй Савета Міністраў Вячаславам Кебічам у Казахстан. Як вядома, паміж Беларуссю і Казахстанам даўно існуюць традыцыйныя адносіны дружбы і супрацоўніцтва. Адбываюцца рэгулярныя сустрэчы і кансультацыі кіраўнікоў урадаў абедзвюх дзяржаў, шырацца прамыя сувязі паміж прадпрыемствамі і арганізацыямі.

Маючы адбыцца візіт стане яшчэ адным добрым прыкладам дружалюбнасці і супрацоўніцтва ў той час, калі навокал рушацца эканамічныя сувязі, шырацца канфрантацыя і варожасць. У Алма-Аце адбудуцца перагаворы паміж урадамі Беларусі і Казахстана. Будзе падпісаны шэраг важных міжурадавых пагадненняў. Сярод іх — аб стварэнні міждзяржаўных гаспадарчых структур, цэнаўтварэнні на прадукцыю міждзяржаўнага абмену, падатковай палітыцы, прынцыпах супрацоўніцтва ў галіне паветранага транспарту, каардынацыі дзейнасці чыгуначнага транспарту, аўтамабільных зносінах, па пытаннях сувязі.

Плануецца таксама падпісанне дадатковага пагаднення паміж урадамі Беларусі і Казахстана аб пастаўцы ў нашу рэспубліку збожжа ўраджаю 1992 года і аказанні дапамогі Казахстану ў правядзенні ўборкі ўраджаю. Паводле папярэдняй дамоўленасці, Беларусь атрымае з Казахстана больш 2 мільёнаў тон збожжа, што практычна задаволіць патрэбнасць рэспублікі ў ім.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

*Вячаслаў КЕБІЧ:*

## «Рукі ўрада звязаны законамі...»

**Эканамічная сітуацыя ў рэспубліцы на пасяджэнні Прэзідыума Саўміна была ахарактарызавана як складаная, але не катастрафічная. Старшыня Дзяржэканомплана С. Лінг адзначыў, што, нягледзячы на негатыўныя тэндэнцыі, у цэлым сітуацыя застаецца пад кантролем. Асноўныя турботы ўрада зараз — лібералізацыя цэн. Але калі ў студзені гэтага года цэны выраслі на 500 працэнтаў у параўнанні з пачаткам леташняга года, у лютым — на 300, у сакавіку — на 240 працэнтаў, то ў ліпені рост цэн на прамысловыя тавары склаў усяго 11 працэнтаў. Так што і тут можна сказаць, што сітуацыя стабілізуецца, тым больш, што ўрад мае намер захаваць манаполію цэн на асноўныя прадукты харчавання і ў першую чаргу — на хлеб.**

Агульны ўзровень прамысловай вытворчасці ў параўнанні з мінулым годам знізіўся на 14—16 працэнтаў, і толькі выраб алкагольных напіткаў увесь гэты час пастаянна расце (на душу насельніцтва прыпадае цяпер 11 літраў), што не можа не трывожыць. А ўвогуле сітуацыя на спажывецкім рынку такая, што на прылаўках быццам бы і ляжыць усё, але нічога не купіш: 80 працэнтаў заработнай платы ідзе на набыццё жыццёва неабходных тавараў і толькі 20 — на ўсё астатняе. Трывожыць сітуацыя і з ростам беспрацоўя, якое мае твар пераважна маладых і жаночы — на сённяшні дзень мы маем каля 13 тысяч страціўшых работу людзей, якія афіцыяльна атрымалі статус беспрацоўнага. У такіх умовах нічога не застаецца рабіць, як ствараць цэлую сістэму заахвочвальных мер для тых прадпрыемстваў, якія рэзервуюць рабочыя месцы для маладых спецыялістаў і інвалідаў. Вядома, элементы рынку заключаюцца не толькі ў гэтым: у нас дзейнічаюць каля 20 камерцыйных банкаў, столькі ж біржаў, 500 сумесных прадпрыемстваў. З апошнімі, праўда, справа складаная: толькі трэць з іх працуе, і то большасць з іх, як сказаў С. Лінг, займаецца «выцягваннем» грошай, а не выпускам тавараў ці аказаннем паслуг.

Сітуацыя ў сельскай гаспадарцы такая: валавы збор збожжа склаў сёлета 7,8 млн. тон, што значна лепш, чым чакалася. Збожжавых сабрана па 31 цэнтнеру з гектара — па гэтым паказчыку мы перасягнулі нават Украіну. Але збожжа ўсё роўна недастаткова: больш чым 2 млн. тон трэба купляць за мяжой. Ёсць дамоўленасці з Казахстанам, Стаўраполлем, Кубанню. Аднак падпісаныя раней дагаворы без ліцэнзіі на вываз застаюцца звычайнай паперай. Значыць, зноў трэба будзе траціць час, даводзячы гэту справу да канца.

Валавы збор бульбы чакаецца каля 7.800 тыс. тон. Значна больш, чым летась, — на 124 тыс. га — пасаджана яе сёлета на прысядзібных участках, так што праблемы з «другім хлебам» не будзе. Цукар. Праблема тут немалая — чакаецца нізкая ўраджайнасць цукровых буракоў, а таму замест 150 тыс. тон цукру рэспубліка выпусціць усяго каля 80 тыс. тон. Астатняе давядзецца купляць за мяжой, аднак на ўзровень 36 кг на душу насельніцтва ў год мы выйдзем.

Значна знізілася ў рэспубліцы спажыванне мяса, у асноўным з-за высокіх цэн. Між тым, паказчык у 67 кг на чалавека ў любым выпадку неабходна захаваць, падкрэсліў С. Лінг.

Называлася тут, вядома, і многа іншых лічбаў, прыводзіць іх усе няма патрэбы. У рэшце рэшт кожны сам зможа ацаніць вынікі года, таму нават не столькі стан эканомікі рэспублікі выклікаў далейшую дыскусію. Галоўным пытаннем, як было адзначана, застаецца навядзенне дысцыпліны і парадку ў вытворчасці і грамадстве.

Вось аб чым сведчаць вынікі сацыялагічных даследаванняў, якія прывёў у заключным слове Старшыня Савета Міністраў В. Кебіч. Першачарговай задачай дзейнасці парламента і ўрада рэспублікі апытаныя лічаць: барацьбу са злачыннасцю (40 прац.), барацьбу са спекуляцыяй (39 прац.), з цянявой эканомікай, умацаванне калгасаў (па 32 прац.), павышэнне ўзроўню прамысловай вытворчасці (29 прац.) і сацыяльную абарону маламаёмасных слаёў насельніцтва (25 прац.). У самы канец, як падкрэсліў В. Кебіч, аднесены сацыяльныя пытанні. Людзі сёння баяцца выйсці на вуліцу: пагроза быць абрабаваным, збітым, зняважаным вісіць над кожным чалавекам, хоць міністр унутраных спраў мне аптымістычна рапартуе: абстаноўка ў барацьбе са злачыннасцю рэзка палепшылася. Маўляў, калі раней рост злачыннасці складаў 18 працэнтаў, то цяпер — «усяго» 15. Разумеецца, паляпшаецца барацьба са злачыннасцю таму, што змяншаецца працэнт росту. Дзе яшчэ такое можна сустрэць?

Карупцыя і спекуляцыя — вось дзе трэба па-сапраўднаму раскрыць вочы, адзначыў Вячаслаў Францавіч. Возьмем армію: палову генералаў не толькі трэба звальняць за дапушчаныя злоўжыванні, але і аддаваць пад суд. Як мог дадумацца былы камандуючы Беларускай ваеннай акругай А. Костэнка выдаць распараджэнне аб тым, што бензін трэба адпускаць для ваеннаслужачых бясплатна? На працягу месяца набывалі па 4 тоны. Выкарыстанне транспартных самалётаў. Машыны штучна ўдзешаўляюцца да такой ступені, што затым прадаюцца за бясцэнак. Расследаванне тут трэба прадаўжаць і прадаўжаць. Ёсць жа загад: нічога не вывозіць з вайсковай маёмасці за межы рэспублікі, але падпісваюцца нейкія паперы і ўсё, што можна, вывозіцца. Не ўкладваючы ніводнага ўласнага рубля, будуюцца шыкоўныя дачы, бессаромна выкарыстоўваецца бясплатная рабочая сіла — салдаты. Паўтараю, усе гэтыя факты пацверджаныя. Дык якія ж яшчэ законы патрэбны праваахоўным органам, каб змагацца са злачыннасцю?

Гэта пра армію. А што робіцца ў нас на вытворчасці — поўная адсутнасць працоўнай дысцыпліны. Хто ўспомніць, як дзейнічаюць санэпідэмстанцыі, калі яны апошні раз заяўлялі аб сабе? Людзі, якія выпускаюць недабраякасную прадукцыю, і работнікі СЭС сёння — практычна адно і тое ж. Міністэрства аховы здароўя і міністр Казакоў бяздзейнічаюць.

Ахова грамадскага правапарадку. Нам дакладваюць: колькасць злачынстваў меншая, чым у іншых рэгіёнах СНД. Але на каго мы павінны раўняцца —на тыя рэспублікі, дзе ідзе грамадзянская або міжнацыянальная бойня, дзе жыццё не ставіцца ў грош? Так што трэба думаць аб тым, як накарміць народ і як, адначасова, супакоіць яго.

Дэпартамент цэн сёння таксама не працуе. Вось, напрыклад, параўнаўчая табліца цэн на прадукты харчавання. Здавалася б, усё добра: мяса танней, малако —танней... Даходзім да бульбы — у іншых рэспубліках цана 3, 5, 11, максімум 16 рублёў. У нас —асноўных вытворцаў — 28 рублёў 50 капеек. А ўсё ад таго, што ў ланцугу «поле —прылавак» вялікая колькасць розных пасрэднікаў, якіх лепш назваць нахлебнікамі. Мінсельгасхарчу тут таксама трэба наводзіць парадак. Урад возьме гэту справу пад свой кантроль, паабяцаў Старшыня Савета Міністраў.

Калгасы і саўгасы пагражаюць сёння забастоўкамі, тым, што не будуць адгружаць прадукцыю гораду. Дык урад хоць сёння гатовы адпусціць закупачныя цэны, але ў такім выпадку «лягуць» і самі гаспадаркі — 186 з іх у Беларусі і так на сённяшні дзень поўныя банкруты. Тое ж самае будзе і з астатнімі без дзяржаўнай падтрымкі. Вядома, гэтага нельга дапусціць, трэба шукаць шляхі ўзаемаразумення.

Далей В. Кебіч закрануў вельмі вострую і далікатную тэму — злоўжыванні службовым становішчам. Пра армію ўжо гаварылася вышэй, але і гаспадарнікі — кіраўнікі прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў, савецкія работнікі таксама «праявілі» сябе ў гэтай справе. У вытворчых калектывах падае дысцыпліна, адказнасць за даручаную справу. Пануе атмасфера бескантрольнасці, што спрыяе росту колькасці правапарушэнняў. Расце колькасць крадзяжоў дзяржаўнай маёмасці, паліва, тэхнікі, жывёлы прама з фермаў,

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## РАДЫЁ ФАКТ

**У БРЭСЦЕ АДКРЫЎСЯ РЭЧАВЫ РЫНАК.** Дэпутаты гарсавета доўга спрачаліся, перш чым прынялі такое рашэнне. За рынак былі тыя, хто справядліва бачыў у ім канкурэнцыю малому гандлёваму бізнесу. Супраць — хто хваляваўся, што яшчэ больш актывізуецца злачыннасць у горадзе. Цяжка выпрацоўвалася рашэнне. Аднак агароджана пляцоўка ў блізкім прыгарадзе Брэста на ўзбярэжжы ракі Мухавец. Рынак запрашае наведвальнікаў. Працаваць гандлёвыя рады будуць тры разы на тыдзень.

●

**РАСІЯ НАКІРАВАЛА ГРУПУ АФІЦЫЯЛЬНЫХ АСОБ** у Гавану, каб абмеркаваць пытанні выводу расійскіх войск з Кубы. На Кубе, дарэчы, да цяперашняга часу знаходзіцца каля 1.600 салдат, якія займаюцца радыёразведкай і навучаннем кубінскіх ваенных.

●

**УДАВА АНДРЭЯ САХАРАВА АЛЕНА БОНЭР** знаходзіцца з візітам у Канадзе. У інтэрв'ю газеце «Сіцізен» яна падзялілася ўражаннямі аб цяперашняй сітуацыі ў Расіі. Бонэр заявіла, што «ў краіне не можа быць сапраўдных рэформ, пакуль урад Ельцына не прыватызуе зямлю і не прыме новую канстытуцыю». Яна дадала, што, нягледзячы на перамены ў кіраўніцтве, бюракраты камуністычнай эпохі працягваюць кіраваць краінай такім жа чынам, як яны рабілі гэта на працягу 70 гадоў.

●

**СЕНСАЦЫЯЙ НУМАР АДЗІН НА БРЫФІНГУ,** які адбыўся ў прэс-цэнтры Міністэрства замежных спраў, стала заява старшыні камітэта Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі Сяргея Сцяпашына аб магчымым хуткім прыездзе ў Маскву дырэктара ЦРУ Роберта Гейтса. Паводле слоў парламентарыя, мэтай такога візіту будзе, хутчэй за ўсё, абмеркаванне пытанняў супрацоўніцтва паміж разведвальнымі ведамствамі Расіі і Злучаных Штатаў.

●

**КАЛЯ ПЯЦІСОТ ДОБРААХВОТНІКАЎ** Канфедэрацыі горскіх народаў Каўказа гатовы да перакідкі ў Абхазію з Чэчні, і іх не спыняць ніякія кардоны ўнутраных войск Расіі, — заявіў старшыня парламента Канфедэрацыі Юсуп Сасланбекаў. «Няспынныя баявыя дзеянні ў Абхазіі не пакідаюць выбару Канфедэрацыі горскіх народаў, — сказаў ён карэспандэнту РІА. — Калі пакінуць сёння абхазцаў без падтрымкі, заўтра настане чарга іншых малых народаў».

●

**ЗА АПОШНІЯ ПАЎТАРА ГОДА** сем супрацоўнікаў службы знешняй разведкі Расіі здрадзілі. Яны нанеслі значны ўрон, раскрыўшы кадравы састаў службы знешняй разведкі і яе агентуры, галоўным чынам у навукова-тэхнічным напрамку разведкі. У выніку разведка вымушана перабудоўваць работу рада падраздзяленняў. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Маскве першы намеснік дырэктара службы знешняй разведкі Расіі Вячаслаў Трубнікаў.

## ХАТНЯЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

### ВАША ЗДАРОЎЕ

## Масаж ступні

**На падэшвах ног існуюць кропкі, звязаныя з пэўнымі зонамі арганізма. Масіруючы іх, можна зняць боль, атрымаць лячэбны эфект. Але, вядома, нельга лічыць самамасаж панацэяй ад усіх хвароб. Вы яго можаце выкарыстаць менавіта для прафілактыкі некаторых захворванняў.**

Спатрэбіцца для такога масажу дыванок з пупышкамі, які звычайна кладуць для чысткі абутку перад уваходнымі дзвярамі. Пакладзіце яго ў ваннай і, мыючыся, тапчыцеся па ім на здароўе! Можна катаць валок па падлозе (ад 3 да 10 хвілін). 1 — гайморавая і лобныя пазухі, зубы; 2 — гіпафіз; 3 — патыліца і вобласць горла; 4 — вочы; 5 — вушы; 6 — шчытападобная і парашчытападобная залозы; 7 — бронхі; 8 — сэрца; 9 — печань; 10 — ныркі; 11 — страўнік і дванаццаціперсная кішка; 12 — падстраўнікавая залоза; 13 — тонкая кішка; 14 — сцягно і калені; 15 — паяснічна - крыжавы аддзел пазваночніка.



Можна выкарыстаць спецыяльны масажны дыванок. Бываюць у магазінах і масіруючыя ступню пакаёвыя тапачкі, а некаторыя вяжуць бугрыстыя дыванкі... Выбірайце, што вам больш даступна і больш падабаецца.

Цудоўны «масажны дыванок» падрыхтавала для нас на беразе рэк і мора прырода — пясок, галька. У цэнтрах лячэбнай фізкультуры пабудаваны спецыяльныя басейны, на дне якіх — зярністы пясок, каменьчыкі. Калі хочаце, можаце зрабіць такі «басейн» у сябе дома — у тазіку.

### ЯК ПЕРАМАГЧЫ СТРЭС

## Не дапускайце спрэчак у сям'і

Супраціўленне стрэсу пачынаецца дома. Для таго, каб справіцца з хуткімі пераменамі, пастаяннымі раздражняльнікамі і шматлікімі сюрпрызамі, якія падносіць жыццё, неабходна ствараць стабільную «базу для аперацый» дома. Псіхолагі даўно выявілі, што члены сям'і, дзе падтрымліваюць адзін аднаго, лягчэй спраўляюцца з крызісамі. Вось некалькі парад, як абараніць вашу сям'ю ад стрэсаў.

Знаходзьце час, каб абмеркаваць дома накопленыя праблемы: вы чакаеце, што выслухаюць вас, але і вам трэба ўмець раздзяляць трывогі іншага боку.

У сям'і неабходны і агульныя «сходы», дзе ўсе маглі б прыняць удзел у абмеркаванні планаў, распарадку, пошуку вырашэння канфліктаў.

Вучыцеся слухаць блізкіх, знаходзіць тое, што схавана паміж «радкамі». Задавайце пытанні, калі вы не разумееце, што хоча сказаць вам член сям'і.

Калі ў вас не склалася традыцыя сумесных святаў, паездак, забаў, тэрмінова завядзіце яе ў вашай сям'і.

Вучыцеся майстэрству кампрамісу.

Будзьце гібкія, калі сітуацыя патрабуе — адступіце ад сваіх пазіцый. Гэтыя якасці вам асабліва спатрэбяцца, калі нехта ў сям'і страціў работу.

Ствараце ўмовы для выхавання індывідуальнасцей у вашай сям'і. Дапамагайце жонцы адрывацца ад надакучлівых хатніх спраў. Не параўноўвайце братоў і сясцёр, хто лепшы, хто горшы— у кожнага павінна быць свая «прастора» для развіцця.

Не пераацэньвайце важнасць поспехаў у вучобе і фінансавых дасягненняў членаў вашай сям'і — іх чалавечыя якасці больш важныя.



### СМАЧНА ЕСЦІ!

## Пеннік

Капуста белакачанная — 1 кг, яйкі — 3 шт., масла — 3 ст. лыжкі, смятана — 4 ст. лыжкі, сухары — 1 шклянка, малако — 1 шклянка, цыбуля — 4 галоўкі, цукар, чорны молаты перац, соль па смаку.

Ачышчаную капусту шынкуюць, заліваюць малаком, прыпускаюць да гатоўнасці, ахалоджваюць і прапускаюць цераз мясарубку. У падрыхтаваную капусту дабаўляюць молатыя сухары, расцёртыя з цукрам яечныя жаўткі, растопленае масла, нарэзаную і злёгку падсмажаную цыбулю, соль, перац, узбітыя бялкі. Усё добра перамешваюць, выкладваюць масу на змазаную маслам патэльню і запякаюць у духоўцы. Падаюць пеннік са смятанай.

## Можа спатрэбіцца

✦ Вы купілі ў магазіне вельмі салёныя агуркі? Не засмучайцеся, справу можна паправіць. Такія агуркі «лечыць» таматны сок. А няма соку—таксама не бяда. Разбаўце да кансістэнцыі соку таматны соус, закіпяціце і астудзіце. Дабаўце солі, часнаку, свежага ці сушанага зяленіва — і заліўка для агуркоў гатова. Вытрымаўшы ў ёй (у эмаліраваным посудзе) агуркі некалькі дзён, вы іх не пазнаеце — яны стануць цвёрдымі, у меру салёнымі, духмянымі.

✦ З рэшткаў тварагу, сыру, кефіру, можна згатаваць страву тыпу «хачапуры».

У місцы разатрыце тварог, на буйной тарцы натрыце сыр, уліце кефір, дадайце сырое яйцо, крыху соды і муку, каб атрымалася цеста, як на густыя аладкі.

Смажце на любым тлушчы з абодвух бакоў на добра разагрэтай патэльні. Атрымліваюцца апетытныя praснакі.

✦ Хочаце здзівіць гасцей? Зрабіце зусім селядцовы фаршмак з... капусты.

Разбярыце невялікі качан на лісты, зрэжце з іх патаўшчэнні і пакладзіце ў падсолены кіпень. Варыце да мяккасці (не пераварвайце!). Тым часам у вас замочаны ў малацэ 3—4 лустачкі батона.

Зліце ваду, няхай лісты астынуць. Добра іх адцісніце і прапусціце праз мясарубку разам з адціснутым батонам і двума крутымі яйкамі. Добра вымешайце, дадайце алей, воцат і соль — па смаку.



Гатовы фаршмак выкладзіце ў селядцоўку, паліце соусам (расцёрты ў алеі круты жаўток і крыху воцату), а зверху ўпрыгожце кольцамі цыбулі.

Будуць есці і нахвальваць: смачны селядцовы фаршмак!..

## Рыбныя «тонкасці»

Здаецца, якое ўжо тут майстэрства — парэзаць ды падсмажыць рыбу. Аднак... Непластаваную рыбу наразаюць на кавалкі ўпоперак, пачынаючы з галавы. Нож трэба трымаць пад вуглом 45 градусаў. Філе наразаецца ад хваста, паклаўшы яго ўнутраным бокам уверх. Нож ставіцца пад вуглом 30 градусаў. Тады порцыі атрымліваюцца больш шырокімі і тонкімі — для раўнамернага абсмажвання. Калі тушка смажыцца цалкам, на скуры ўздоўж робяцца надрэзы, каб рыбіна не дэфармавалася. А каб рыба была больш сакавітай і смачнай, яе папярэдне замочваюць у малацэ і толькі перад самым смажаннем соляць, перчаць, паніруюць у муцэ.

А самае галоўнае — рыбу нельга класці на неразагрэтую патэльню. У гэтым выпадку замаруджваецца ўтварэнне скарынкі, якая затрымлівае сок, і рыба траціць не толькі сакавітасць, але і смак, і пажыўнасць.

## Кумпяк

**Пры сухім саленні** мяса атрымліваецца не такім смачным, але даўжэй захоўваецца. Для націрання кавалкаў выкарыстоўваюць наступную сумесь: 5 кг солі, 2 кг цукру, 156 г дробнай салетры (з разліку на 100 кг свініны). Праз некалькі дзён кавалкі мяса зноў націраюць такой жа колькасцю сумесі. Сярэднія і дробныя кумпякі прасольваюцца за 2—3 тыдні, буйныя — за 4—5. Затым свініну вымаюць, лішнюю соль абтрасаюць і вешаюць (як і пры саленні ў расоле) для прасушвання. **Трэба памятаць: і саленне, і прасушванне трэба ажыццяўляць у халодным месцы.** Калі свініна перасолена, не засмучайцеся. Апусціце яе ў халодную ваду і пры неабходнасці змяніце ваду некалькі разоў.

### КУМПЯКІ ВАРАНА-ВЭНДЖАНЫЯ

Захоўваюцца больш працяглы час, аднак і прыгатаванне іх патрабуе больш клопату. Пасля салення мяса трэба вымачыць 2—3 гадзіны, абсушыць і вэндзіць дымам пры тэмпературы 40—45° некалькі гадзін, пасля чаго варыць ці запякаць. Калі ж трэба кумпяк захаваць на доўгі час, то тэрмін вэнджання прадаўжаюць да некалькіх сутак і нават тыдняў. Сыравэнджаныя кумпякі трэба вэндзіць у халодным дыме (каля 20—25 °С). Пасля чаго падсушваць у сухім месцы каля тыдня.

# БЕЛАРУШЧЫНА

ВЕСТКІ

## НАВАГРУДАК ПОМНІЦЬ СЯБЕ СТАЛІЦАЙ

**По намерах тутэйшых улад відаць, што слынны горад беларускай гісторыі мае намер развітацца з безаблічным райцэнтраўскім існаваннем. І для гэтага ёсць шмат падстаў. Адна слава былой сталіцы Вялікага княства Літоўскага чаго вартая! Сёння ў горадзе адкрываюцца другія Навагрудскія чытанні.**

**Акрамя таго, у гэтыя ж дні ў горадзе адкрыецца гісторыка-краязнаўчы музей і разам з літаратурным іх стане два — што ўжо зусім нечуваная рэдкасць для нашых райцэнтраў.**

**Скіне покрыва і новы помнік — гэта скульптурная работа Валерыя Янушкевіча, прысвечаная славутаму ўраджэнцу гэтых мясцін Адаму Міцкевічу.**

# ЁН СТАЎ ДЛЯ НАС БОЛЬШ БЛІЗКІМ

## АГЛЯД СКАРЫНІЯНЫ

«Вера без спраў мёртвая», гаворыцца ў Бібліі. Гэтае мудрае выказванне любіў наш славуты першадрукар Францішак Скарына. Яркі прыклад вялікага асветніка-гуманіста асабліва паказальны і важны для нас сёння. Ён пераканаўча сведчыць, як многа можа зрабіць для свайго народа адзін чалавек, дзейны, актыўны, самаахвярны.

У апошнія гады, калі наша краіна ўрачыста адзначала 500-годдзе з часу нараджэння Скарыны, ён стаў для нас яшчэ больш блізкім. У кнігарнях можна было набыць самыя розныя выданні пра вялікага асветніка: строга акадэмічныя і навукова-папулярныя, грунтоўныя фаліянты і кішэнныя, падарожныя кніжкі, календары і паштоўкі. Сучасная Скарыніяна папоўнілася больш чым двума дзесяткамі асобных кніг і не адной сотняй артыкулаў. Сапраўдным падарункам для ўсіх аматараў Скарыны стала энцыклапедыя «Францыск Скарына і яго час», што была выдадзена на беларускай і рускай мовах.

Нельга не здзівіцца і не парадавацца, колькі зроблена ў апошні час па скарыназнаўству. І ў гэтым найперш вялікая заслуга вучоных. Сёлета на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі па навуцы вылучаны цыкл прац «Скарына і беларуская культура». У спісе прадстаўленых мы бачым мовазнаўца А. Булыку, які нямала зрабіў у вывучэнні старабеларускай мовы. Ён—адзін з аўтараў калектыўнай манаграфіі «Мова выданняў Скарыны», у якой грунтоўна раскрыта непаўторнае багацце мовы першадрукара.

Унікальны зборнік дакументаў і матэрыялаў падрыхтаваў літаратуразнаўца В. Дарашкевіч. У працэсе работы былі знойдзены і зусім невядомыя дакументы пра Скарыну. Гэты каштоўны зборнік цікавы і патрэбны не толькі навукоўцам, але і настаўнікам, выкладчыкам, студэнтам.

Плённа вывучае мастацкае афармленне кніг Скарыны доктар мастацтвазнаўства В. Шматаў. Ён усебакова даследаваў яго гравюры, застаўкі, ініцыялы, асабліва вядомы партрэт асветніка, прасачыў асаблівасці іх мастацкага стылю і паказаў самабытны, рэнесансава-гуманістычны характар мастацкага аздаблення кніг першадрукара. Працы В. Шматава, асабліва яго апошняя, выдадзеная ў Маскве манаграфія «Мастацтва кніг Францыска Скарыны», раскрылі ўсё багацце і непаўторнае эстэтычнае хараство скарынаўскіх выданняў як сапраўдных шэдэўраў кнігадрукавання.

Разнабаковы ўклад у выкананне Скарынаўскай праграмы, у вывучэнне творчай спадчыны Скарыны, яго эпохі і традыцый унёс вядомы даследчык беларускай старажытнай літаратуры В. Чамярыцкі. Яму належаць грунтоўныя раздзелы і артыкулы ў самых розных выданнях, ён адзін з аўтараў нарыса пра беларускага асветніка, што апублікаваны ЮНЕСКО ў Парыжы на англійскай і французскай мовах. Апрача таго, у многіх кнігах скарынаўскай серыі сустракаецца прозвішча В. Чамярыцкага і як навуковага рэдактара.

Многія, напэўна, маюць у сваіх бібліятэках кнігі вядомага маскоўскага гісторыка, даследчыка славянскага кнігадрукавання Я. Неміроўскага. Сваёй змястоўнай і грунтоўнай манаграфіяй пра Скарыну, шэрагам іншых важкіх прац ён сур'ёзна ўзбагаціў скарыназнаўства, садзейнічаў яго выхаду на еўрапейскі ўзровень. Арыгінальную і цікавую працу «Пачатае Скарынам» напісаў Ю. Лабынцаў. Уважліва разгледзеўшы багатую, разнамоўную кніжную прадукцыю друкарняў Беларусі і Літвы XV ст., ён выявіў дабратворную ролю скарынаўскіх традыцый у развіцці ўсходнеславянскага кнігадрукавання і пераканаўча паказаў перадавую ролю беларускай культуры эпохі Адраджэння ва Усходняй Еўропе, што ўплывала на культуру суседніх народаў.

Паводле палажэння аб прэміях, нельга вылучаць калектыў звыш 6 чалавек. Таму, на жаль, сярод прадстаўленых да прэміі мы не знаходзім вядомага беларускага мовазнаўца А. Жураўскага, кнігазнаўца Г. Галенчанку, гісторыка А. Каўку, уклад якіх у Скарыніяну таксама вельмі значны.

Дзякуючы карпатлівай працы беларускіх скарыназнаўцаў мы папоўнілі свае паліцы цэлай серыяй цікавых і вельмі патрэбных кніг. Да ўжо згаданых варта дадаць Поўны збор твораў Скарыны, своеасаблівую энцыклапедыю беларускай культуры XVI ст. «Скарына і яго эпоха», а таксама трохтомнае выданне яго Бібліі.

Магчыма, прыдзірлівы крытык знойдзе ва ўсіх гэтых працах і пралікі. Аднак у асноўным трэба прызнаць, што беларускія вучоныя ўзнялі сваімі даследаваннямі скарыназнаўства на новы, больш высокі ўзровень. Дзякуючы іх намаганням мы глыбей спазналі, якую каштоўную спадчыну маем, а таксама адчулі, наколькі яна актуальная і патрэбная нам сёння як стымул нашага цяперашняга Адраджэння. Таму, здаецца, не можа быць ніякага сумнення ў тым, што цыкл «Скарына і беларуская культура» безумоўна заслугоўвае Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

**Галіна ФАТЫХАВА.**

ШТОДЗЁННЫЯ СІТУАЦЫІ

## Ці ўсміхнецца мне касір?

**На прынцыповае пытанне Уладзіміра Малашчанкі: «Чаму ў Мазыры беларусу грошай не давалі?» (гл. «Беларушчыну» за 26 чэрвеня) адказаў начальнік упраўлення зберажэнняў і каштоўных папер Беларускага ашчаднага банка Аляксандр Баркун. У сваім лісце ў рэдакцыю ён паведаміў, што ў вобласці накіраваны пісьмы з патрабаваннем строга выконваць Закон аб мовах. Касіры-кантралёры, якія адмовяцца прымаць запоўненыя па-беларуску дакументы, будуць несці персанальную адказнасць.**

**Дзелавая рэакцыя, але ад усяго гэтага сумнавата. Закон, выходзіць, без службовых інструкцый і не закон.**

## «Правильно пишите адрес»

**Я ўжо даўно знаёмы са старшынёй Беларускай сялянскай партыі Яўгенам Лугіным. Сустрэліся мы з ім і тады, калі Лугін прыязджаў у Асіповічы для падрыхтоўкі раённай канферэнцыі Беларускай сялянскай партыі. І ён паказаў мне пісьмо — звычайны канверт з «настаўніцкай» паметкай: «Правильно пишите адрес...» Але памылак у адрасе не было. Проста Лугін напісаў яго па-беларуску.**

**Мне цяжка вызначыць, мінскія ці асіповіцкія сувязісты зрабілі такую дзіўную адзнаку на канверце, але факт застаецца фактам: пошта яшчэ, відаць, доўга збіраецца працаваць па старых правілах. І цяпер я не здзіўляюся таму, што мне не так даўно вярнулася пісьмо, якое я накіраваў у рэдакцыю адной з газет. Шарыкавай ручкай на адрасе атрымальніка быў пастаўлены чырвоны крыж. Вось так!**

**Іван СЦЯПУРА.**
г. Асіповічы.

## Подых даўніх гадоў

На ціхай старажытнай вулачцы Полацка размясціўся музей, роўных якому няма не толькі ў блізкім, але і ў далёкім замежжы.

Экспазіцыя расказвае пра гісторыю беларускага кнігадрукавання, якое мае сваю прыкметную старонку ў гісторыі сусветнай культуры. Тут можна ўбачыць шмат цікавых матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці вядомых асветнікаў — святой Ефрасінні Полацкай і Францыска Скарыны.

Два невялікія пакоі дакладна перадаюць абстаноўку тых памяшканняў, дзе насельнікі манастыроў перапісвалі царкоўную літаратуру, любоўна ўпрыгожвалі і перапляталі.

**НА ЗДЫМКАХ: тут размешчаны музей; з далёкіх стагоддзяў захаваліся гэтыя старажытныя выданні; фрагмент манаскай келлі, дзе перапісваліся царкоўныя кнігі.**

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК

## Гарбар, грабар, рымар...

**Мікалай Язэпавіч Лазар з Маладзечна ў свой час працаваў наборшчыкам у друкарні. Але адолелі хваробы — згубіўся слых, амаль перасталі дзейнічаць ногі... Уцехай яго жыцця стаў крыху незвычайны для пенсіянера занятак — ён пачаў сістэматызаваць усе фальклорныя і этнаграфічныя звесткі, якія накапіў за доўгія гады. Склаў картатэку ўжывальных на Беларусі мужчынскіх і жаночых імёнаў, запісваў частушкі, паданні, народныя вершы... І, як гэта часта здараецца, плён працы энтузіяста бясследна знік: прыехалі калегі-журналісты з Беларускага тэлебачання — узялі інтэрв'ю, а заадно прыхапілі і картатэку імёнаў. Дзе, у каго яна,— Мікалай Язэпавіч не ведае і не зможа, на жаль, ні аднавіць яе, ні паехаць шукаць...**

**Увогуле, сістэматызацыя і абагульненне матэрыялаў, сабраных аматарамі-краязнаўцамі,— праблема і праблема. Няма ў іх свайго часопіса, толькі нядаўна адноўлена таварыства.**

**Таму мы прапануем усім, хто мае цікавыя матэрыялы, можа падзяліцца сваімі ўспамінамі, запісамі,— старонкі «Беларушчыны». А сёння друкуем фрагменты нататкаў аб назвах прафесій, дасланых М. Лазарам. Яны падкажуць, чаму адна з вуліц у Мінску яшчэ называецца Рымарнай, расшыфруюць паходжанне многіх прозвішчаў, назваў вёсак.**

**ГАРБАР.** Спецыяліст, які вырабляў шкуры хатняй жывёлы — каровіны, валовыя, бычыныя, конскія, авечыя, казліныя, а таксама дзікіх жывёл — аленяў, ласёў, ваўкоў, лісаў, мядзведзяў і іншыя. Для гэтай работы трэба шмат прылад, напрыклад, вялікія ліпавыя чаны, дубовая кара, жытняя мука. Работа цягнулася доўга, месяцамі, была цяжкай, малапрывабнай. Гарбаром, дарэчы, пачынаў працаваць пісьменнік, першы старшыня беларускага ўрада Цішка Гартны (Жылуновіч). Мяркую, што слова «гарбар» звязана з тым, што найлепшая пасля вырабу скура атрымлівалася з гарба жывёлы.

**КУШНЕР.** Гэта сумежная спецыяльнасць. Чалавек вырабляў драбнейшыя скуркі: трусоў, зайцоў, тхароў, барсукоў, кратоў і нават вялікіх пацукоў. З іх шылі футры, шапкі, рукавіцы, вельмі выгадныя і цёплыя «паддзёўкі».

**ШАПАВАЛ.** Той, хто вырабляў з воўны валёнкі, шапкі-папахі. Іх добрая якасць залежала ад таго, наколькі добра вымытая і прачэсаная воўна. Потым яна выбівалася таўкачамі ў драўляных ступах спецыяльнай формы.

**ГРАБАР** — гэта далакоп. Людзі гэтай спецыяльнасці замянялі сучасныя пахавальныя бюро: рабілі дамавіны, капалі дол. Як правіла, яны працавалі не па адным, сама меней — удваіх.

**РЫМАР** (па-руску шорник) — той, хто вырабляў вупраж для язды на конях, валах, быках, сабаках. А для таго, каб запрэгчы каня ў аглоблі, былі патрэбны і аброць, і хамут, і сядло, і падсядзёлак, і лейцы, і шмат больш дробных дэталяў. Рымарствам, як і гарбарствам, займаліся ў асноўным яўрэі, вядома, толькі мужчыны. Жанчыны і падлеткі маглі толькі падсабляць ім.

МОВА ДАРОГ




## Эх, двухмоўе...

**Гэтыя здымкі даслаў у рэдакцыю наш чытач са Скідаля Ілья Барысаў. Такія ўказальнікі сустракаюць нас на дарогах Беларусі і Літвы. Нагадаем, што ў выпуску за 12 чэрвеня мы ўжо пісалі пра намеры дарожных службаў рэспублікі надалей надпісы на ўнутраных дарогах рабіць толькі па-беларуску, на міжнародных—па-беларуску і па-англійску. А пакуль на гэта знойдуцца сродкі, на вочы зноў і зноў будуць трапляць гэтыя іранічныя двухмоўныя рэлікты. Зрэшты, у іх нават першапачаткова не закладвалася ніякай мэтазгоднасці, акрамя відавочнага жадання дагадзіць «и» вашым, «і» нашым.**




РАДАВОД

# Хачу ўсё ведаць пра сваё прозвішча

**Паважаная «Беларушчына»!**

**Мае продкі нарадзіліся і жывуць на поўначы Беларусі ў Верхнядзвінскім (Дрысенскім) раёне Віцебскай вобласці. Іх прозвішча было Шатаронак, але пасля смерці дзеда прозвішча змянілася да непазнавальнасці і цяпер стала «Шайцерёнок». Можа б вы мне растлумачылі, ад якога слова яно паходзіць, што азначае і як правільна пішацца.**

**Валянціна ШЭЛЕГ.**
**г. Наваполацк.**

**Мяне вельмі зацікавіў адказ на ліст Руслана Равякі пра яго прозвішча. Я таксама хачу ведаць, як правільна трэба пісаць маё прозвішча: Пачэбут, Пачабут, альбо (як гэта пішуць на рускай мове) Почебут. Мне гэта яшчэ і таму цікава, што жыву я ў Калінінградскай вобласці, жонка ў мяне руская. Каб не выпісваў вашу газету, дык і зусім забыў бы родную мову. Дапамажыце расказаць дзецям, хто іх продкі. І ў цэлым, у мяне ёсць прапанова зрабіць гэту паслугу платнай, і я гатовы заплаціць за яе столькі, колькі спатрэбіцца.**

**Ю. ПАЧАБУТ.**
**г. Гусеў Калінінградская вобл.**

А чаму б нам і не прыняць разумную прапанову спадара Пачабута? Паходжанне свайго прозвішча, напэўна, захочуць ведаць усе нашы чытачы. Таму мы дамовіліся з вучонымі Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа друкаваць у нашай рубрыцы такія даведачныя матэрыялы, з якіх можна будзе скласці маленькі слоўнічак. А плату нашым чытачам мы прапануем невялікую — яна, будзем лічыць, закладзена ў падпісную цану на «Звязду».

**Сёння чытачам адказвае кандыдат філалагічных навук Ганна УСЦІНОВІЧ.**

Перш за ўсё трэба адзначыць, што пісьмовая практыка заўсёды павінна ўлічваць устойлівасць і традыцыйную дакладнасць прозвішчаў, характэрную прыкмету гэтай антрапанімічнай катэгорыі. Менавіта гэта асаблівасць звязвае і аб'ядноўвае розныя пакаленні нашчадкаў аднаго роду. Таму разнабой у афіцыяльным напісанні аднаго і таго ж прозвішча парушае радавое адзінства, якое склалася на працягу стагоддзяў, і, зразумела, з'яўляецца непажаданай і недапушчальнай з'явай.

Што ж да паходжання прозвішча Шатаронак, то яно ўзыходзіць, як сцвярджае акадэмік М. В. Бірыла ў сваёй вядомай працы «Беларуская антрапанімія» (Мінск, 1969, с. 470) ад цюркскага слова **шатыр,** якое азначае «слуга, скараход, які ідзе перад выхадам цара ці вяльможы».

А вось прозвішча Шайтаронак звязваецца з уласным імем **Шайтар,** вядомым з XVII—XVIII стагоддзяў. Значыць, прозвішчы Шатаронак і Шайтаронак маюць розную зыходную аснову і таму замяняць іх адно другім няма падстаў.

М. В. Бірыла ў сваёй вышэйпамянёнай працы (гл. с. 319) прыводзіць прозвішчы Пачабу́т, Пачыбу́т, Пачабы́т, што звязаны з антрапонімамі Пачабут, Пачабыт, паходжанне і значэнне якіх зацемнены і пакуль не ўстаноўлены. Як жа правільна пісаць прозвішча па-беларуску? Калі яно вымаўляецца традыцыйна, з націскам на апошнім складзе, то «Пачабу́т», а калі на другім (што можна тлумачыць уплывам польскай мовы) — то «Пачэ́бут».

## Парады на ўсякі выпадак



Яшчэ адзін спосаб замазвання шчылін у падлозе з дошак. Для гэтай мэты выкарыстоўваюць бітум. Яго трэба расплавіць і заліць у шчыліну, лішкі зрэзаць. Потым шчыліну зафарбаваць, фарба злёгку растворыць застылы бітум. Яшчэ раз пафарбуйце — і след рамонту знікне.



Гэты рэцэпт стары, але дакладны. Тонкі слой мыла, які наносяць на паверхню шкельцаў акуляраў (з абодвух бакоў), праціраюць насуха мяккай анучкай. Акуляры перастаюць пацець у халоднае надвор'е.

Шарсцяныя шкарпэткі ў гумавых ботах ірвуцца вельмі хутка. Каб падоўжыць тэрмін іх службы, падшыйце да падэшвы шкарпэтак капронавы падследнік ці частку капронавай панчохі.



Распілоўваючы нажоўкай тонкую металічную трубку, змясціце яе ў паз драўлянага бруска (напрыклад, у паз паркетнай клёпкі) — канцы трубкі не скамечацца.

«Агучыць» чайнік можна самому. Са старой гумавай цацкі выцягніце свістульку, прасвідруйце ў накрыўцы чайніка дзірку і завальцуйце туды свістульку на гумавых пракладках. У момант закіпання «вартаўнік» пакліча вас на кухню.



Тонкая гумавая лата пры намазванні яе клеем скручваецца ў трубку. Да вонкавага боку загадзя прыляпіце палоскі лейкапластыра, якія потым лёгка здымаюцца.

Калі гумавы бот прапускае ваду, а вы не можаце знайсці дзірку, сплюшчыце халяву, закруціце і апусціце ніз бота ў ваду. Бурбалкі з бота дапамогуць знайсці пракол ці шчыліну.



Шкляныя слоікі і накрыўкі ад кансерваў венгерскай вытворчасці можна выкарыстоўваць некалькі разоў для хатняга кансервавання. Слоік закрываюць накрыўкай з пракладкай, прыціскаюць грузам і ставяць у бак для пастэрызацыі. Пасля апрацоўкі яму даюць астыць пад грузам, накрыўка будзе трымацца надзейна.

***

Аўтаматару карысна мець працейшы пробнік на 6—12 вольт. З яго дапамогай лёгка адшукаць няспраўнасць у ланцугу асвятлення, генератары, рэле і г. д. Зрабіць яго няцяжка. У корпус старой аўтаручкі ўстаўце лямпачку на патрэбнае напружанне. Да яе загадзя прыпаяйце правады. Адзін ад лямпачкі прымацуйце да шчупа, другі (доўгі) — да заціскачкі тыпу «кракадзіл». Для праверкі напружання «кракадзіл» мацуюць на корпусе, а шчуп прыкладаюць да провада, які патрэбна праверыць. Лямпачка гарыць — ланцуг спраўны.








## Варэнне без слоікаў

Чым замяніць дэфіцытную шклатару ў перыяд нарыхтовак ягад на зіму? Паспрабуйце выкарыстаць поліэтыленавыя пакеты. Вазьміце два пакеты, укладзіце адзін у другі, а потым змясціце ў мяшочак са шчыльнай тканіны ці пластыку, па памеру крыху меншы за поліэтыленавы пакет. Пры запаўненні варэннем мяшочак з тканіны ці пластыку не дасць расцягвацца пакетам, і іх герметычнасць будзе забяспечана.

## Надзейная ізаляцыя

У садовым доме з электраправодкай патрэбна абыходзіцца асабліва асцярожна, пастаянна кантралюючы надзейнасць ізаляцыі правадоў. Звычайна на месца іх злучэння накладваюць ізаляцыйную стужку. Калі яна зроблена з пластыку, то яе можна акуратна, каб не пашкодзіць праводку, злёгку расплавіць паяльнікам. Маналітны слой, які ўтвараецца пры гэтым, надзейна ізалюе жылы правадоў.

## Дапаможа трафарэт

Лета —самы падыходзячы час для рамонту садовага дома. Найбольш слабае яго месца — падлога з дошак, бо дошкі патрабуюць пастаяннага догляду, а перыядычна — дробнага рамонту, напрыклад, замазвання шчылін, якія часта ўтвараюцца ў драўлянай падлозе. Каб аблегчыць гэту марудную работу, прапануем няхітрае прыстасаванне — трафарэт. Гэта кавалачак шчыльнай паперы, пластыку, кардону з вузкай адтулінай у сярэдзіне. Намазваючы на трафарэт шпаклёўку, акуратна запаўняем шчыліны падлогі.

## Замест кастра—цэгла

Для першапраходцаў-садаводаў, якія толькі атрымалі доўгачаканы ўчастак, на першым часе касцёр замяняе печ і пліту. На кастры гатуюць, каля яго сушаць адзенне. Але для яго патрэбны дровы, якія не заўсёды ёсць на ўчастку. Там, дзе дроў не хапае, можа выручыць звычайная цэгла. Яе прасушваюць, а затым на некалькі гадзін апускаюць у газу. Насычаную ёю цэглу падпальваюць, і своеасаблівы прымус гатоў. Каб патушыць полымя, цэглу накрываюць брызентам.



РЭЗЕРВЫ МЫЙКІ

## Знізу — кладоўка

**Сучасная кухонная мэбля, што выпускаецца прамысловасцю, разлічана на кватэры палепшанай планіроўкі, дзе плошча кухні ад 8 да 12 м². У маленькую кватэру з кухняй 5 м² такія гарнітуры проста не змяшчаюцца. Таму даводзіцца абсталёўваць яе асобнымі прадметамі ці рабіць мэблю самастойна.**



І паколькі ў невялікім памяшканні практычна няма месца, каб зрабіць шафы і кладоўкі, можна выкарыстаць ніжнюю частку мыйкі для захоўвання агародніны.

Уся канструкцыя сабрана з лістоў драўнінастружкавых пліт (ДСП), абклееных пластыкам, падабраным у адпаведнасці з астатняй мэбляй кухні.

Спачатку вырабляем асноўны каркас. Ён складаецца з дзвюх бакавін, злучаных паліцай і перагародкай. Апошняя служыць элементам цвёрдасці ўсёй канструкцыі, таму што задняя сценка, якая ўмацоўвае ўсе традыцыйныя канструкцыі, у мыйцы адсутнічае. У адной з бакавых сценак, а таксама ў паліцы неабходна выразаць вокны пад каналізацыйныя трубы (на чарцяжах гэтыя праёмы не паказаны, іх форма, памеры і месца выбіраюцца на месцы). У верхняй частцы бакавіны звязаны верхняй дошкай, якая мае выраз па ніжняй частцы ракавіны. Да левай бакавіны на спецыяльных мэблевых пятлях мацуюцца дзверцы.

У ніжняй частцы мыйкі размяшчаецца адкатная скрыня для агародніны. Канструкцыя яе вельмі простая, збіраецца з ДСП таўшчынёй 15 мм. Бакавыя сценкі маюць адтуліны для вентыляцыі. Кольцы, размешчаныя ўнізе скрыні, можна вытачыць з дрэва, тэксталіту ці выкарыстаць гатовыя мэблевыя, што выпускаюцца прамысловасцю.

